## ПАСЛАННЕ ДА ФІЛІМОНА

## 1-25

[1]Павел, вязень Езуса Хрыста, і Цімафей, брат, умілаванаму Філімону,
супрацоўніку нашаму, [2]і Апфіі, сястры, і Архіпу, паплечніку нашаму ў змаганні,
і Касцёлу ў тваім доме: [3]ласка вам і спакой ад Бога, Айца нашага, і Пана Езуса
Хрыста.

[4]Я заўсёды дзякую майму Богу, калі ўспамінаю цябе ў сваіх малітвах,
[5]чуючы аб тваёй веры і любові, якую маеш да Пана Езуса і да ўсіх святых, [6]каб
супольнасць тваёй веры прывяла цябе да пазнання ўсялякага дабра, якое ёсць у
нас дзякуючы Хрысту. [7]Я вельмі ўзрадаваўся і суцешыўся з прычыны тваёй
любові, бо праз цябе, браце, заспакоены сэрцы святых.

[8]Таму, хоць і маю вялікую адвагу ў Хрысце загадваць табе тое, што трэба,
[9]хутчэй прашу цябе з любоўю. Я, Павел, будучы старцам, а цяпер і вязнем
Езуса Хрыста, [10]прашу цябе за майго сына Анісіма, якога нарадзіў я ў кайданах.
[11]Некалі ён быў бескарысны для цябе, а цяпер карысны і для цябе, і для мяне.
[12]Яго, маё сэрца, адсылаю да цябе. [13]Я хацеў затрымаць яго пры сабе, каб ён
замест цябе паслужыў мне ў кайданах за Евангелле.

[14]Але без тваёй згоды нічога не хацеў бы рабіць, каб добрая справа твая
была не з прымусу, а з добрай волі. [15]Бо, можа, ён быў аддалены ад цябе на
пэўны час, каб ты прыняў яго назаўсёды [16]ўжо не як слугу, але больш чым
слугу, як брата ўмілаванага, асабліва для мне, а тым больш для цябе, і паводле
цела, і ў Пану.

[17]Таму, калі лічыш мяне супольнікам, то прымі яго, як мяне. [18]Калі ж ён
чым пакрыўдзіў цябе, або вінаваты табе, палічы гэта мне. [19]Я, Павел, напісаў
сваёю рукою: я адплачу, ужо не кажучы табе пра тое, што ты сабою вінаваты
мне. [20]Так, браце! Няхай я атрымаю ад цябе карысць у Пану; заспакой маё сэрца
ў Хрысце!

[21]Спадзеючыся на тваю паслухмянасць, я напісаў табе, ведаючы, што і
больш таго, аб чым прашу, зробіш. [22]Адначасова прашу, прыгатуй мне жытло,
бо спадзяюся, што дзякуючы вашым малітвам я вярнуся да вас.

[23]Вітае цябе Эпафрас, мой сувязень у Хрысце Езусе, [24]Марк, Арыстарх,
Дэмас і Лука, памочнікі мае.

[25]Ласка Пана Езуса Хрыста з духам вашым.

---